Дняпроўская СТРОМА




№ 7 верасень 2012 г.
Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»



САЮЗ АФІЦЫЙНА

# Пасяджэнне суполкі

2 верасня 2012 г. адбылося чарговае пасяджэнне магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб тым, што было зроблена за мінулыя чатыры месяцы. У абмеркаванні справаздачы прынялі ўдзел Тамара Аўсяннікава, Сяргей Украінка і Фелікс Шкірманкоў, якія адзначылі, што працу аддзялення неабходна арганізоўваць больш планава, а таксама знаходзіць магчымасці мэтанакіравана працаваць з творчай моладдзю. Была звернута ўвага на тое, што на месцах існуюць пэўныя цяжкасці з арганізацыяй літаратурных мерапрыемстваў з удзелам сябраў СБП з-за "перастраховачнай" пазіцыі некаторых прадстаўнікоў мясцовых улад, якія скіраваны мець стасункі толькі з "афіцыйным" Саюзам пісьменнікаў Беларусі.





Фелікс Шкірманкоў



Яраслаў Клімуць і Тамара Аўсяннікава



Таццяна Барысік

Была абмеркавана дзейнасць літаратурна-інфармацыйнага выдання аддзялення - бюлетэня "Дняпроўская строма". Т.Аўсяннікава адзначыла, што ў гэтым накірунку зроблена шмат, але аднаму М.Яцкову цяжка з усім спраўляцца. Таму неабходна выбраць рэдкалегію з трох чалавек - для калектыўнага абмеркавання кожнага нумара. Я.Клімуць падтрымаў прапанову калектыўнага абмеркавання, але выказаў думку, што не трэба рабіць нейкую афіцыйную рэдкалегію, бо ёсць магчымасці займацца гэтай справай падчас сустрэч сябраў суполкі, дзе новыя творы і матэрыялы будуць абмяркоўвацца і адбірацца для публікацыі ў "Дняпроўскай строме". С.Украінка дадаў, што сёння, у час развіцця электронных тэхналогій, практычна кожны з нас можа ўдзельнічаць у стварэнні гэтага літаратурна - інфармацыйнага бюлетэня.



Эдуард Акулін

Прысутныя заслухалі выступленне літаратара Таццяны Барысік, якая распавяла пра свае жыццёвыя шляхі і творчую працу, прачытала ўласныя творы і выказала жаданне ўступіць у шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў. С.Украінка ў гэтай сувязі адзначыў, што даўно сочыць за творчасцю Т.Барысік і можа ўпэўнена сцвярджаць пра самабытнасць яе цікавых твораў, якія не надуманыя, а перажытыя, і літаратурная мова якіх цудоўная і своеасаблівая. Свае меркаванні таксама выказалі Т.Аўсяннікава, М.Яцкоў, Я.Клімуць, Ф.Шкірманкоў і прапанавалі падтрымаць маючую заяву. Сябры суполкі магілёўскіх літаратараў аднагалосна рэкамендавалі Таццяну Барысік для ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Таксама адбылося абмеркаванне перспектывы развіцця будучага літаратурнага альманаха Магілёўскага аддзялення СБП.



Сяргей Украінка

Свае адносіны да маючых месца літаратурных працэсаў выказаў запрошаны на пасяджэнне сябра Магілёўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы Аляксей Карпенка.



Аляксей Карпенка

У пасяджэнні прыняў удзел намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Эдуард Акулін.

*Ала ЯЦКОВА.*

# Пісьменнікі ў гвардзейцаў

2 верасня 2012 года ў 188-й гвардзейскай Ноўгарадскай Чырвонасцяжнай, ордэнаў Суворава і Багдана Хмяльніцкага інжынерна-сапёрнай брыгадзе, што месціцца ў Магілёве, адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вечарыну арганізавала магілёўская гарадская бібліятэка імя К.Маркса. Прысутныя ўважліва агледзелі кніжную выставу, праслухалі прапанаваную кампазіцыю пра жыццёвыя шляхі беларускіх песняроў, якую агучылі Ірына Цінякова і Васіль Дзмітрачэнка, а таксама вершы ў выкананні артыстаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці і воінаў-гвардзейцаў. Прагучалі песні на вершы Я.Купалы ў аўтарскім выкананні кампазітара Міколы Яцкова. Заключным акордам вечарыны стала выступленне паэта Эдуарда Акуліна. Ён павіншаваў гледачоў са святам беларускага пісьменства і друку, які адзначаўся ў гэты дзень. Знаходзячыся сярод вайскоўцаў, Э.Акулін распавёў пра асаблівасці лёсу сваіх сваякоў, якія прайшлі праз полымя Афганістана і прачытаў сваю баладу, прысвечаную афганскім падзеям. А потым загучалі звонкія струны акулінскай гітары, і прысутныя з задавальненнем паслухалі некалькі песен, у тым ліку і знакамітую *"Янка Купала ідзе..."*



Ірына Цінякова



Мікола Яцкоў





Дар'я Поварава



Ала Яцкова



Эдуард Акулін







# Поспех магілёўцаў

*(З паведамлення нашага карэспандэнта)*



*Напрыканцы ліпеня ў Гародні прайшло каманднае першынства Беларусі па шахматах сярод інвалідаў. Каманду Магілёўскай вобласці склалі: Міхась Булавацкі (капітан), Зміцер Яраш і Эма Кірылава. Зміцер усе свае гульні прайграў, але намаганнямі астатніх сяброў магілёўская каманда заняла ўсё ж трэцяе месца.*

*Па заканчэнні першынства М. Булавацкі наведаў знакамітага настаўніка Алеся Белакоза, які жыве ў вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна. Гадам раней наш зямляк адрэдагаваў і падрыхтаваў да друку невялічкую кніжку настаўніка "Самарослая методыка". Праўкі Булавацкага настаўніку спадабаліся, ён захацеў бліжэй пазнаёміцца з рэдактарам і запрасіў пагасцяваць у яго колькі дзён.*

*Белакоз праславіўся не толькі тым, што добра вучыў дзяцей роднай мове, не толькі выразна патрыятычным выхаваннем сваіх навучэнцаў, але больш тым, што праз шалёнае сумленнае працаваннем сваіх вучняў стварыў у вёсцы выбітны літаратурна-краязнаўчы музей.*

*Можна зразумець чыноўнікаў: літаратурны музей у вёсцы – гэта нешта дзівоснае. Кіраваў музеем сам А.Белакоз, экскурсаводамі былі яго навучэнцы. Яны перапісваліся з беларускімі пісьменнікамі і ўвогуле патрыётамі Беларусі з розных канцоў свету.*

*Значнасць музея ўсё ж прызналі, зараз гэта дзяржаўны музей, а Алесю Мікалаевічу прысвоілі званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. І... адправілі на пенсію. Чалавек восенню адзначыць 84 гады свайго жыцця. Жыцця даволі цікавага і вартага ўвагі, бо ўрачы не менш як пяць разоў прарочылі яму перасяленне ў іншы свет, пачынаючы ад моманту нараджэння, але ён кожны раз прымудраўся перахітрыць смерць. І зараз ужо некалькі гадоў жыве з трыма формамі раку ў апошняй стадыі. І не проста жыве, а жыве ў бадзёрым настроі і займаецца актыўнай творчасцю. Як гэта ў яго атрымоўваецца? – варта паслухаць самога Белакоза ці пачытаць яго кніжку "Крамянёўка".*

*Сустрэча адбылася. Некалькі дзён цікавых размоў. Булавацкі слухаў расповяды з жыцця Белакоза і яго роду, кожны з якіх мог стаць падставай для напісання літаратурнага твора ці газетнага артыкула. Адзін з гэтых расповядаў друкуецца ніжэй.*







Магілёўцы сустракаюцца з Алесем Белакозам. *Фота Аляксандра Ліціна.*

# Грошы не трэба

## Распавядае Алесь Белакоз

Мой стрыечны брат Іван Зубко быў дырэктарам саўгаса імя Леніна пад Бабруйскам. Падчас гарбачоўскай перабудовы гаспадаркам далі крыху больш волі і дырэктар скарыстаў яе на карысць людзям. У саўгасе з'явіліся два заводы – крухмальны і джэмавы. Выпуск крухмалу даваў невялікі даход. А вось на джэме саўгас стаў зарабляць добра. Прымалі яблыкі ад насельніцтва па пятнаццаць капеек за кіло, перараблялі ў джэм, які прадавалі ўжо па семдзясят капеек. Бабруйскі джэм атрымліваўся смачным і карыстаўся попытам не толькі ў Беларусі, але і ў блізкім замежжы, нават на Украіне, дзе і сваіх яблыкаў хапала.

Разбагацеўшы, вырашылі набыць новае абсталяванне, дзякуючы чаму выпуск джэму павялічваўся ў два з паловай разы.

У той час я гасціў у брата і, пачуўшы пра тое, запытаўся:

– А куды дзенеш старое абсталяванне?

– Здадзім на металалом.

– Але ж яно яшчэ прыгоднае?

– Так, магло б яшчэ працаваць. Але што рабіць, яно ўжо нам не трэба.

– Дык прадай яго Гудзевіцкаму калгасу. Шчэ й заробіш крыху грошай.

– Я нават яго й так аддам, хай карыстаюцца. Толькі няхай здадуць тры тоны металалому ад імя нашага саўгаса.

Металалому на калгасным двары хапала. Прыехаўшы дадому, я прапанаваў старшыні набыць тое абсталяванне, каб зарабляць вытворчасцю джэму грошы для калгаса.

– А навошта нам гэта? – здзівіў мяне пытаннем старшыня. І, бачачы маю збянтэжанасць, патлумачыў:

– Да нас нядаўна далучылі суседні калгас, які разваліўся. Таму зараз наш калгас лічыцца слабым і дзеля яго падтрымкі нашу прадукцыю дзяржава закупляе па коштах, удвая вышэйшых. У выніку грошай на калгасным рахунку шмат. Калі мы станем зарабляць болей і грошы пацякуць на рахунак, нас прызнаюць моцнай гаспадаркай і пачнуць прымаць нашу прадукцыю па нізкіх коштах. Таму мы прайграем...

Вось такой была планавая савецкая гаспадарка. Кіраўнікі не былі зацікаўленымі ў тым, каб лепш працаваць і болей зарабляць. А садоў наўкола шмат, яблыкі гінулі.

І вось жа: грошай у калгасе было шмат, а заробкі калгаснікаў былі такімі ж нізкімі. Мо старшыня думаў, што стане болей плаціць, дык зноў жа калгас палічаць моцным і адбяруць ільготы. А мо й сам карыстаўся тымі грашамі. Чым болей грошай на рахунку калгаса, тым болей іх у кішэні старшыні.

Як бы там ні было, джэмавы завод у Гудзевічах не з'явіўся.

*Падрыхтаваў Кастусь ШАШКІН.*

# Волат беларускі



*...Калі мяне ціснулі ў 60-70 гады, мне здавалася, што я – адзіны такі ў цэлым свеце. Гэта вельмі страшна, калі ты адзін. Але потым я ўбачыў, што маіх аднадумцаў шмат і з кожным годам становіцца ўсё больш...*
**А.Белакоз**

Летам 2010 года група магілёўцаў, вандруючы па Гарадзеншчыне, завіталі ў Гудзевічы да Алеся Белакоза. Па прыездзе дадому я захацеў раздрукаваць фотаздымкі з той сустрэчы і занёс флэшку Віктару, знаёмаму фотамайстру. Раздрукаваныя фотаздымкі ўбачыў былы супрацоўнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі і пацікавіўся: *"Хто гэта?"* – *"Не ведаю,"* – паціснуў плячыма Віктар. – *"А я ведаю. Гэта настаўнік з Гродзенскай вобласці."*

Што ж гэта за настаўнік сціплай вясковай школы, пра якога ведаюць не толькі ў КДБ Гародні, але і ў Магілёве, а значыць, мяркую, у кожнай структуры КДБ Беларусі? Чым ён так праславіўся, што выклікаў надзвычай пільную ўвагу абаронцаў дзяржаўнай бяспекі?

А ён сапраўды быў небяспечны для дзяржавы з доўгай назвай, замененай абрэвіятурай СССР, бо ён не любіў такога Саюза, які нішчыў усё, што было дорага гэтаму чалавеку, патрыёту Беларусі.

Вайну ён сустрэў трынаццацігадовым хлапчуком. Дакладней, трынаццацігадовым ён сустрэў нямецкае нашэсце. А вайну сустрэў амаль двума гадамі раней, калі ў Заходнюю Беларусь увайшлі савецкія войскі. *"Новую ўладу сустракалі з радасцю,* – успамінае Алесь Мікалаевіч, – *а ў 41-м з нямецкай радасцю сустракалі немцаў. Але і першая, і другая радасць хутка раталі як травеньскі снег".*

Мабыць, ужо тады хлопчык пачынаў разумець, што ніякая чужая ўлада не будзе дзейнічаць на карысць Беларусі, што радзіму трэба бараніць ад любой чужой улады, ад улады, якая зневажае твае сімвалы, твой лад жыцця, тваю мову, тваю памяць. І ўжо пачаўшы настаўніцкую працу напрыканцы 40-х гадоў, ён стаў саматужна змагацца з чужой уладай, раскідваючы і расклейваючы ўлёткі з заклікамі змагацца за Беларусь незалежную. Потым зразумеў марнасць такога юнацкага супраціву, тым болей што за яго ўлёткі пацярпелі іншыя людзі, і пачаў шукаць больш тонкую і больш дзейсную тактыку змагання.

# Волат беларускі

( Заканчэнне. Пачатак на с.2 )

Ён пачаў вучыць дзяцей беларускай мове і літаратуры. Не, не так трэба сказаць. Ён пачаў вучыць дзяцей Мове і Літаратуры. Ён прыдумляў самыя дзейсныя прыёмы засвойвання роднай мовы. Яго вучні пісалі вершы, кароценькія апавяданні, якія ён збіраў і выдаваў "Праменьчык" - альманах дзіцячых твораў, перапісваліся з беларускімі пісьменнікамі, з беларускімі патрыётамі замежжа, здабывалі інфармацыю пра напаўзабытых паэтаў Гарадзеншчыны, асабліва тых, чыя творчасць была пранізана любоўю да мілай радзімы. Нарэшце ў Гудзевіцкай школе быў адкрыты краязнаўча-літаратурны музей. Зараз гэта


А.Белакоз ля першага будынка Гудзевіцкага музея


Частка экспазіцыі Гудзевіцкага музея

дзяржаўны музей, а Белакозу прысвоілі званне заслужанага работніка культуры і ўзнагародзілі медалём Францішка Скарыны.

Толькі чаго каштавалі Белакозу і яго ахвярная настаўніцкая праца, і яго не менш ахвярныя музейныя клопаты, – можна доўга распавядаць, але тут мы гэтага рабіць не будзем, бо шмат адпаведнай інфармацыі зараз можна знайсці ў інтэрнэце. Чытачам настойліва раім пацікавіцца гэтай інфармацыяй, бо пра такіх людзей беларусам трэба ведаць.

11 верасня Алесю Белакозу споўнілася 84 гады. Гэтая лічба цікавая яшчэ адной асаблівасцю: апошнюю чвэрць стагоддзя гэты чалавек жыве з трыма цяжкімі формамі раку, але ён навучыўся змагацца з сваімі хваробамі не горш, чым з рознымі ўладамі. І гэтаму ён гатовы навучыць іншых людзей...

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**

bulavacki@gmail.com

*Віншуем Алеся Белакоза з Днём нараджэння, зычым моцнага здароўя і новых здабыткаў на ніве беларушчыны!*

# Паэмы "Энеіда навыварат", "Тарас на Парнасе" і Магілёўшчына

Ад сярэдзіны дзевятнаццатага стагоддзя і да сёняшняга часу многім аматарам і прафесіянальным літаратарам не дае спакою пытанне: а хто ўсё ж аўтары гэтых твораў і дзе яны былі напісаны? Версій было многа, але большасць наводзіла на думку, што творы ўзніклі ва Ўсходняй Беларусі, а сёй-той і канкрэтызаваў, што менавіта на Магілёўшчыне, некаторыя сцвярджалі, што на Віцебшчыне, не адвяргалася і Міншчына. І падставы для такіх высноў былі: рукапісныя экзэмпляры пазначаных твораў былі ў архівах вядомых зараз пісьменнікаў Беларусі менавіта з гэтых рэгіёнаў. Актыўныя спрэчкі пачаліся ад першых публікацый твораў – "Энеіды навыварат" у пецярбургскім "Маяку" (1845 г.) і "Тараса на Парнасе" у "Мінскім лістку" (1890 г.).

Яшчэ ў XIX стагоддзі, пачынаючы ад А.Падбярэзскага, адначным аўтарам "Энеіды навыварат" лічыўся І.Манькоўскі, вядомы тагачасны грамадскі дзеяч на Віцебшчыне і Магілёўшчыне, у архіве якога і быў знойдзены першы рукапісны варыянт паэмы. Гэтая версія трымалася даволі доўга, хоць на пераломе стагоддзяў Я.Карскі і Е.Раманаў магчымым аўтарам называлі В.Равінскага. Аўтарства "Тараса на Парнасе" выклікала больш інтрыг, паколькі рукапісныя варыянты гэтага твора знаходзіліся ў архівах многіх беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя. Аўтарства прыпісвалі В. Дуніну - Марцінкевічу, І.Вярыгу-Дарэўскаму, Я.Вулю (Э.Ф.Карафа-Корбуту). Аднак яшчэ на пачатку XX стагоддзя Е.Раманаў выказаў думку, што аўтарам паэмы "Тарас на Парнасе" мог быць нехта са студэнтаў Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, які былі закрыты ў сувязі с тым, што амаль усе студэнты прынялі ўдзел у паўстанні 1863 года.

Пасяховымі ў пэўным сэнсе былі і спробы разгадкі аўтарства паэм ужо ў новы час. У 20-х гадах гэтым пытаннем зацікавіўся М.Піятуховіч, літаратуразнаўца, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Відаць, разгадка была блізка. Але пачаліся рэпрэсіі, многія матэрыялі знікалі разам з іх уладальнікамі.

Самая актыўная праца пра аўтарства твораў узнавілася толькі ў другой палове XX стагоддзя. Для гэтага з'явіліся спрыяльныя ўмовы. Версій выказвалася таксама многа, але яны звычайна не пацвярджаліся дакументальна. І толькі ў 60-я гады, калі ўзяўся за гэтую справу Г.Кісялёў, архівіст па адукацыі, многае зрушылася з мёртвай кропкі. Абапіраючыся на многія публікацыі, архіўныя дакументы (а гэта вельмі важна!), ён даказаў, што аўтарам "Энеіды навыварат" з'яўляецца В.Равінскі, жыхар Смаленшчыны, якая ў XIX стагоддзі яшчэ выразна была этнічна беларускай тэрыторыяй. Зрэшты, і сёння ў заходніх вёсках Смаленшчыны людзі гавораць па-беларуску.

Праўда, была версія і П.Шаўцова, які на аснове мясцовай легенды пра беглага дэкабрыста высноўваў версію, што аўтарам паэмы быў яго прадзед Крупенька, паколькі ў дзедаўскай хаце пры рамонце быў знойдзены пук паперы, дзе быў і адзін варыянт "Энеіды навыварат". Аднак высновa аказалася бяздоказнай.

Цяжэй справа абстаіць з "Тарасам на Парнасе". Да апошняга часу літаратуразнаўцы не прыйшлі да адзінага вываду. Але, на маю думку, найбольш доказнай у пошукавых рэаліях з'яўляецца Г.Кісялёў, які зноў на аснове дакументальных матэрыялаў прыйшоў да высновы, што аўтарам апошняй паэмы з'яўляецца К.Вераніцын. Для гэтага яму спатрэбілася амаль паўстагоддзя. Паспрыяла і тое, што вярнуўся ў Мінск архіў вядомага літаратуразнаўцы В.Мачульскага, які захаваў артыкул М.Піятуховіча пра вядомага літаратара, фалькларыста, гісторыка А.Рыпінскага, у архівах якога і знаходзіўся спіс "Тараса на Парнасе", дзе было указана, што твор напісаны ў 1855 годзе ў Гарадку, пад Віцебскам, на малой радзіме К.Вераніцына. А студэнтам Горы-Горацкага інстытута К.Вераніцын стаў крыху пазней. Але ж у свет паэма пайшла менавіта адтуль. Значыць, Магілёўшчына мае ўсе падставы ганарыцца, што ў яе межах узніклі і бытавалі такія класічныя творы.


Міхаіл Піятуховіч

Генадзь Кісялёў

Яўхім Карскі

Еўдакім Раманаў


Вікенцій Равінскі


Канстанцін Вераніцын
Малюнак Сяргея Харэўскага


Аляксандр Рыпінскі







Хто жадае больш падрабязна пазнаёміцца з гісторыяй пошуку імя аўтараў, тых адсылаю да кніг Генадзя Кісялёва *"Загадка "Энеіды"* (Мінск, 1971), *"Пошукі імя"* (Мінск, 1978) і *"Жылі-былі класікі"* (Мінск, 2005).



**Яраслаў КЛІМУЦЬ.**

# НАША ГІСТОРЫЯ

## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

*( Працяг. Пачатак у № 1- 6 )*



Прырода як бы злівaецца з чалавекам, а лёс чалавека, народа не абыякавы паэту, бо ён і сам часцінка, крупінка народа. Васіль Іванавіч не шкадаваў намаганняў для аказання дапамогі здольнай моладзі, адбіраў яе лепшыя творы для друку. Сіламі мясцовых пісьменнікаў было выпушчана некалькі калектыўных мастацкіх зборнікаў — *«Літаратурны Магілёў»*, кнігі 1—2 (1949—50 гг.), *«Дняпро»* (1957 г.), *«Прыдняпроўе»* (1958 г.). У Магілёўскім драматычным тэатры былі пастаўлены (на роднай беларускай мове) спектаклі па п'есах членаў літаб'яднання Івана Тарасава (*«Гэта было ў Магілёве»*) і Івана Ісачанкі (*«Мурын бор»*), якія карысталіся вялікім поспехам, доўга, пры перапоўненай зале, трымаліся ў рэпертуары.



Васіль Матэвушаў

З літаб'яднання «Прыдняпроўе» набраў творчую вышыню Аляксей Пысін — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, заслужаны работнік культуры Беларусі, імем якога названа Палужская сярэдняя школа ў родным яму Краснапольскім раёне. Ад кнігі да кнігі набіраў сілы голас паэта. З кнігі ў кнігу пераходзіла, выкрышталізоўваючыся, ягоная галоўная тэма — тэма ваенных будняў, франтавых дарог, якімі прайшоў Аляксей Васільевіч у салдацкім шынялі. У яго вершах, паэмах ваенны вобраз жыццёвы, не надуманы. Таму цягне яшчэ і яшчэ раз перачытаць і *«Палім мы маршанскую махорку»*, і *«Далёкі тупат кананады»*, і *«На жалезным кастры самалёта»*, і *«Пахаваны тут франтавік»*, і многія іншыя пысінскія вершы. Размова паэта аб вайне — гэта не проста даніна памяці сэрца. Гэта дзеля вечнасці жыцця. Дзеля майго, тваёго і ўсіхнага шчасця. А, як сказаў паэт,

Аляксей Пысін

*Шчасце так не даецца,*
*І яго не купіць:*
*Шчасце сеецца, жнецца,*
*Шчасце ў кузнях куецца,*
*У мартэнах кіпіць.*

З аб'яднання «Прыдняпроўе» пайшлі ў мастацкую літаратуру Сцяпан Гаўрусёў, Анатоль Сербантовіч, Марыя Шаўчонак, Віктар Ракаў, Яўген Крупенька, Мікола Луфераў, Віктар Карамазаў, Святлана Марчанка, Аляксандр Мельнікаў, Зміт-рок Марозаў, Святлана Басуматрава, Рыгор Яўсееў...



Сцяпан Гаўрусёў

*(Працяг будзе)*

# Ала ВАСІЛЕНКА :
## "Без гэтага цяжка дыхаць!.."



На 15 верасня прыпадае свята -- Дзень бібліятэк.

Усе мы ведаем, якое выключнае значэнне ў нашым жыцці маюць кнігі. А дзеля таго, каб мы мелі магчымасць кожны раз дакрануцца да кніжнага сусвету, працуюць бібліятэчныя работнікі. Яны робяць, негледзячы на тое, што заробкі ў іх самыя малыя сярод бюджэтнікаў, што часта і ўмовы працы ў іх не самыя лепшыя. Але яны вельмі аддананыя таму шляху, які калісьці абралі.

Сярод бібліятэкараў Магілёўшчыны і ўсёй Беларусі сваё асобнае месца займае Ала Міхайлаўна Василенка. Яна нарадзілася ў вёсцы Арцёмаўка Клімавіцкага раёна - з'явілася на свет літаральна ў мясцовай школе, бо яе мама была там загадчыцай, і сям'я мела пакой у школьным будынку.

Пасля заканчэння школы, Ала Міхайлаўна адвучылася ў Ленінградскім інстытуце культуры, працавала на Пскоўшчыне, потым прыехала ў Магілёў, пазнаёмілася тут са сваім будучым мужам Мікалаем Сцяпанавічам і вырашыла звязаць свой лёс з роднай Магілёўшчынай. Плённа працавала ў магілёўскіх бібліятэках, а з 1996 да 2008 года была дырэктарам абласной бібліятэкі імя У.І.Леніна.

Як раз на гэты час прыпала станаўленне незалежнай беларускай дзяржавы, якая адным з прыярытэтаў свайго развіцця пазначыла пашырэнне культурнай прасторы. У бібліятэчную справу прыйшлі сучасныя камп'ютэрныя тэхналогіі, і ўсё новае знайшло станоўчы водгук у чытачоў. Магілёўская абласная бібліятэка трывала ўсталявалася на перакрыжаваннях запытаў сучаснасці, зрабіўшыся сімвалам культурнага жыцця нашага рэгіёна. І ў цэнтры гэтага ўздыму заўсёды знаходзілася Ала Міхайлаўна Васіленка.

Аднойчы я запытаў у яе: "Што для Вас бібліятэка?" І пачуў у адказ: "Пра гэту з'яву ніхто не сказаў лепей за былога нашага міністра культуры Уладзіміра Сасноўскага: *"Бібліятэка -- як паветра. Калі яно ёсць -- дык яго не заўважаеш. А калі яго няма -- дык цяжка дыхаць"*.




І вельмі добра, што сярод тых, хто не дазваляе нам з цяжкасцю дыхаць у сутарэннях часу і лёсу, ёсць Ала Міхайлаўна Васіленка -- цудоўная жанчына і вялікі працаўнік. Да таго ж, яна спрабуе свае сілы і ў літаратуры -- у даволі складаным жанры паэтыка-філасофскіх замалёвак, вытокі якога ў традыцыях паэзіі Усходу.

І сёння чытачы "Дняпроўскай стромы" маюць магчымасць паглыбіцца ў неабсяжнасць і шматмернасць сусвету Алы Василенка, пазнаёміўшыся з паэтычнай нізкай, якая была прапанавана нашаму выданню.

**Мікола ЯЦКОЎ.**
Фотаздымак аўтара.

# Сырые мысли



■ Гонимый ветром парус
Вдаль стремится.
Так мы к своей мечте
Бежим, боясь остановиться!..
Лишь сильный духом
Может совладать со штилем.

■ Трещит огонь в печи…
Звучит осенний блюз,
И женщина в окне
Напоминает мне
О юности ушедшей...

■ Где есть та грань,
Перешатнуть которую
Боимся мы всегда;
Чтоб быть не оклеветаны
Врагами и поняты своими?

■ Ветер бьётся в окно –
Зло пробивается в щели…
Остановись и закрой
Ставни души.

■ История циклична –
Всё движется по кругу.
Сегодня зло востребовано нами,
А завтра будет ли кому творить добро?

■ Творить добро и отвечать
Добром на зло?..
Доколе, Господи,
Нести нам этот крест?



■ В чём смысл бытия?
В паскудном пресмыканьи,
В корысти, в словоблудии и лести?..
Или в борьбе с собой
Над низменностью Духа?



■ Года идут, идут…
И вот уже никто
Не ходит больше
нашею тропой.
Мне не найти на ней
Твоих следов.

■ Когда Господь творил Тебя,
Он вырвал слабое звено
И сделал сильною,
заполнив пустоту –
Вдохнув в неё Любовь!



■ Судьбу возможно ль изменить,
Поклав на чашечки весов
что есть, что было и что будет?..

■ Осень подкралась
незаметно,
И я вышла ей навстречу,
Чтобы идти рядом,
Не оглядываясь в прошлое...



■ У птицы два крыла,
Дающих ей взметнуться ввысь
над бездной…
У человека разум – то крыло,
Чтоб не упасть с высот.

Выкарыстаны малюнкі Таццяны Грыбанавай і Людмілы Лобач.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.09.2012 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

kamunikat
«Дняпроўская страма» заўсёды на
www.kamunikat.org